ЭЛЕКТРОННЫ БЮЛЕТЭНЬ

# СМІ ў БЕЛАРУСІ

№ 1 (51)
СТУДЗЕНЬ–КРАСАВІК
2017



Фота: Генадзь Верацінскі

## Спецвыпуск: ГАРАЧАЯ ВЯСНА 2017



ГА «БЕЛАРУСКАЯ АСАЦЫЯЦЫЯ ЖУРНАЛІСТАЎ»

WWW.BAJ.BY

# Становішча ў галіне СМІ ў студзені–красавіку 2017 г. (агляд)

Пасля пэўнага зніжэння ціску на журналістаў і сродкі масавай інфармацыі ў 2016 г. – узімку 2017 г. з захаваннем жорсткага дзяржаўнага кантролю за распаўсюдам інфармацыі становішча ў галіне СМІ ў Беларусі ў сакавіку – красавіку 2017 г. зноў пагоршылася. Гэта звязана з імкненнем уладаў абмежаваць асвятленне журналістамі масавых акцыяў пратэсту ў краіне.

Гэтак, на працягу сакавіка ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў" зафіксавала 123 выпадкі парушэння правоў журналістаў, звязаных з выкананнем імі прафесійнай дзейнасці, у тым ліку 94 затрыманні і 6 фактаў ужывання гвалту з боку міліцыі.


Фота: Генадзь Верацінскі

Таксама аднавіўся пераслед беларускіх журналістаў за супрацоўніцтва з замежнымі медыямі без акрэдытацыі. У сакавіку – красавіку суды 13 разоў каралі журналістаў высокімі штрафамі за "парушэнне парадку вырабу і распаўсюду прадукцыі СМІ". 31 сакавіка ў двух офісах, дзе працавалі журналісты, звязаныя з польскім тэлеканалам "Белсат", адбылісяператрусы і канфіскацыя абсталявання. Міліцыя тлумачыла гэтыя дзеянні абаронай правоў на таварны знак па заяве праваўладальніка.

Асноўным станоўчым вынікам вясны 2017 г. сталася вяртанне ў дзяржаўныя сеткі распаўсюду незалежных друкаваных перыядычных выданняў, якія былі пазбаўленыя такой магчымасці больш як 10 год перад тым.

# Асноўныя падзеі ў галіне СМІ ў студзені – красавіку 2017 г.

## Затрыманні журналістаў, якія асвятлялі масавыя акцыі пратэсту

У 2016 г. ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў" адзначала як становучую тэндэнцыю памяншэнне выпадкаў затрыманняў журналістаў: 13 затрыманняў супраць 19 у 2015 г. і 167 у паслявыбарчым 2011 г. Аднак 12 сакавіка 2017 г. толькі за адзін дзень у розных гарадах Беларусі было затрымана 18 журналістаў, што ў паўтара раза больш, чым за ўвесь папярэдні год.

Чацвёра з іх – Кацярына Бахвалава, Галіна Абакунчык, Сяргей Пятрухін і Дзмітрый Гарбуноў – былі затрыманыя да суду і правялі ноч у ізалятары часовага ўтрымання. Пасля С. Пятрухін і Д. Гарбуноў былі асуджаныя да адміністрацыйнага арышту на 15 сутак.

Яшчэ больш журналістаў – 36 – былі затрыманыя 25 сакавіка падчас традыцыйнае акцыі дэмакратычных сілаў "Дзень Волі". Восем з затрыманых былі асуджаныя на тэрмін да 15 сутак адміністрацыйнага арышту.

Найбольшы рэзананс выклікала асуджэнне Аляксандра Баразенкі, які вёў рэпартаж з акцыі ў прамым эфіры, уключаючы сваё затрыманне.

Супрацоўнікі міліцыі сцвярджалі, быццам бы ён "крычаў, лаяўся, размахваў рукамі, не рэагаваў на папярэджанні міліцыі". Аднак абарона надала ў суд відэазапіс, на якім быў зафіксаваны момант затрымання А. Баразенкі



і які даказваў, што інкрымінаваных яму дзеянняў ён не здзяйсняў, а выконваў прафесійныя абавязкі і неаднаразова паведамляў міліцыі пра свой статус журналіста. Насуперак відавочнаму, суд вынес рашэнне пра арышт А. Баразенкі на 15 сутак за “дробнае хуліганства” на падставе паказанняў міліцыянтаў.

**Усяго ў сакавіку–красавіку 2017 г. ГА “БАЖ” зафіксавала 96 выпадкаў затрымання журналістаў і 6 фактаў ужывання да іх гвалту з боку супрацоўнікаў міліцыі, а таксама 45 фактаў судовага адміністрацыйнага пераследу.**




**У 10 выпадках журналісты былі прысуджаныя да арышту на тэрмін да 15 сутак, у 22 выпадках – пакараныя штрафамі да 60 базавых велічыняў (што тоесна больш як 650 еўра). Частка спраў яшчэ чакае свайго разгляду ў судах.**

## Пераслед журналістаў за супрацу з замежнымі СМІ без акрэдытацыі

У сакавіку 2017 г. аднавіўся судовы пераслед беларускіх журналістаў-фрылансераў за супрацоўніцтва з замежнымі сродкамі масавай інфармацыі без акрэдытацыі Міністэрства замежных спраў (паводле арт. 22.9 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях “Парушэнне

заканадаўства пра СМІ”). За сакавік– красавік зафіксавана 13 выпадкаў прыцягнення журналістаў да адміністрацыйнай адказнасці паводле гэтага артыкула. Агульная сума штрафаў склала 9 430 беларускіх рублёў (каля 4 715 еўра).

Ва ўсіх выпадках падставай для гэтага стаўся не змест журналісцкіх матэрыялаў, а сам факт іх з’яўлення ў замежных СМІ.

Да моманту складання гэтага бюлетэня яшчэ чатыры журналісты былі аштрафаваныя, міліцыя ў розных рэгіёнах Беларусі працягвае складаць пратаколы за журналісцкую дзейнасць на карысць замежных СМІ без акрэдытацыі. У большасці выпадкаў пераследуюцца журналісты, якія супрацоўнічаюць з польскім тэлеканалам “Белсат”.




**Журналісты прыцягваюцца да адказнасці паводле адвольна трактаванай часткі 2 арт. 22.9 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях, якая прадугледжвае адказнасць за незаконны выраб і/ці распаўсюд прадукцыі СМІ. Такая практыка пачалася з траўня 2014 г. Да жніўня 2015 г. суды 38 разоў штрафавалі журналістаў на падставе гэтага артыкула. Становішча, здавалася, змянілася пасля таго, як 4 жніўня 2015 г. прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка падчас перадвыбарчага**

**інтэрв'ю з ім журналістаў незалежных СМІ паабяцаў вырашыць гэтую праблему. З канца жніўня і да канца 2015 г. новых справаў па ч. 2 арт. 22.9 не ўзбуджалася. Аднак на пачатку 2016 г. гэтая практыка аднавілася ў Гомельскай вобласці, дзе за чатыры месяцы двое журналістаў – Кастусь Жукоўскі і Ларыса Шчыракова – былі аштрафаваныя 10 разоў. У траўні 2016 г., у сувязі з набліжэннем выбараў у Палату прадстаўнікоў, пераслед журналістаў-фрылансераў часова прыпыніўся, але аднавіўся ў сакавіку 2017 г.**





31 сакавіка 2017 г. у двух офісах, дзе працавалі журналісты, звязаныя з тэлеканалам "Белсат", міліцыя правяла вобшукі і канфіскацыю абсталявання. ГУУС Мінгарвыканкама патлумачыла гэтыя дзеянні абаронай правоў на таварны знак па заяве праваўладальніка.

ГА "БАЖ" у сваёй заяве ад 3 красавіка звязалаператрусы і канфіскацыю абсталявання з намерам уладаў спыніць дзейнасць незалежных тэлежурналістаў у краіне, асабліва падчас масавых акцыяў пратэсту.

## Вяртанне незалежных газетаў у дзяржаўныя сеткі распаўсюду

З пачатку красавіка ў газетных шапіках сістэмы "Саюздрук" упершыню за больш як дзесяць год з'явіліся некалькі незалежных перыядычных друкаваных выданняў: "Газета Слонімская", "Новы Час", "Intex-press", "Барысаўскія навіны".

Гэта сталася непасрэдным вынікам сустрэчы рэдактара газеты "Народная воля" з Аляксандрам Лукашэнкам, якая адбылася ў лютым 2017 г. І. Сярэдзіч перадаў кіраўніку дзяржавы спіс з дзевяці выданняў, якія не могуць

патрапіць у тую ці іншую дзяржаўную сетку распаўсюду СМІ. Прэзідэнт паабяцаў вырашыць гэтую праблему.

Тыя, хто звярнуўся ў прадпрыемствы “Саюздруку”, што дамінуюць у сферы распаўсюду СМІ ў розніцу, сапраўды, былі вернутыя ў газетныя шапікі.

Большасць з іх, а таксама "СНплюс. Свабодныя навіны плюс" і "Вольнае Глыбокае" знаходзяцца на этапе ўзгаднення іх уключэння ў падпісны каталог “Белпошты” на другое паўгоддзе.




**Амаль 20 незалежных грамадска-палітычных газетаў былі выключаныя з дзяржаўных сістэмаў распаўсюду 11 год таму, напярэдадні прэзідэнцкае выбарчае кампаніі. Тады РУП “Белпошта” адмовілася ўключаць выданні ў падпісныя каталогі, а прадпрыемствы “Саюздруку” – прадаваць іх праз газетныя шапікі. Скасоўванне дамоваў з рэдакцыямі незалежных газетаў было найчасцей матываванае эканамічнай немэтазгоднасцю. У выніку каля паловы з гэтых выданняў спынілі выхад у друкаваным выглядзе. У 2008 г. на хвалі пацяплення адносінаў Беларусі і ЕС “Белпошта” і прадпрыемствы “Саюздруку” аднавілі супрацу з газетамі “Народная Воля” і “Наша Ніва”.**

# Рэйтынгі, індэксы, статыстыка

## “Рэпарцёры без межаў” паставілі Беларусь на 153 месца па ўзроўні свабоды СМІ

Беларусь займае 153 месца з 180 краінаў у Сусветным індэксе свабоды прэсы-2017, падрыхтаваным “Рэпарцёрамі без межаў”. Раней некалькі год запар Беларусь у гэтым рэйтынгу займала 157 месца.

Згодна з апісаннем, Індэкс свабоды прэсы адлюстроўвае “ступень свабоды, даступную журналістам, СМІ і актывістам грамадзянскай супольнасці ў кожнай з 180 краінаў, і намаганні, якія прыкладаюць улады дзеля захавання свабоды слова”.

## IREX змерыў “Індэкс медыяўстойлівасці” Беларусі

Міжнародная некамерцыйная арганізацыя IREX выдала ў красавіку ўласны штогадовы “Індэкс медыяўстойлівасці”, складзены на падставе апытання экспертаў.

Інфармацыя пра Беларусь у сусветным дакладзе складае больш як 10 старонак.

У катэгорыі “Свабода слова” (адна з пяці катэгорыяў, паводле якіх праводзіцца ацэньванне краінаў) Беларусь упершыню перайшла з групы няўстойлівых краінаў з культурай

прыцяснення правоў прэсы з боку ўладаў у групу няўстойлівых краінаў са змяшанай культурай. Пры гэтым колькасць балаў у параўнанні з 2016 г. амаль падвоілася – 1,31 проці 0,73 (пры мінімальным бале “0” і максімальным “4”). Аднак у дакладзе падкрэсліваецца, што свабода слова ў Беларусі мае найменшы бал у параўнанні з іншымі катэгорыямі (гл. с. 164 Індэкса), у якіх Беларусь таксама знаходзіцца ў групе няўстойлівых краінаў са змяшанай культурай.

MEDIA SUSTAINABILITY INDEX: BELARUS




MEDIA SUSTAINABILITY INDEX 2017: OVERALL AVERAGE SCORES




www.irex.org

